РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 34 (7847) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 3 мая 2000 г. Цана 25 руб.

## Агрэхі на сяўбе недапушчальныя

Раённы выканаўчы камітэт на нечарговым пасяджэнні, якое вёў старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў, разгледзеў матэрыялы праверкі якасці палявых работ у калгасах раёна. Былі запрошаны кіраўнікі і члены тэхналагічных груп, работнікі ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, раённых служб, старшыні і галоўныя агрономы некаторых калгасаў.

Як адзначалася, у многіх гаспадарках сёлета арганізавана вядзецца яравая сяўба, надаецца рашаючае значэнне захаванню тэрмінаў і адпаведных тэхналогій.

Аднак у цэлым у раёне тэмпы сяўбы недастатковыя па шэрагу прычын. Таму зараз згодна з урадавай тэлеграмай неабходна актывізаваць работы на палях, каб своечасова іх завяршыць.

Безумоўна, стварающы аснову будучага ўраджаю, нельга ігнараваць якасныя паказчыкі пасяўной. Між іншым, у пагоні за аб'ёмамі ў некаторых гаспадарках допускаюць брак на палях. Выяўлена, што ў калгасе "Смольскі" сяўба яравой пшаніцы вялася непратручаным насеннем. Віна ў першую чаргу кладзецца на галоўнага агранома гаспадаркі Мікалая Марусава, які дазволіў гэта. Не заўважылі чамусьці парушэння члены тэхналагічнай групы, якія замацаваны за гаспадаркай і абавязаны ажыццяўляць кантроль, і іншыя спецыялісты.

Выканкам заслухаў тлумачэнні старшыні калгаса "Смольскі" Уладзіміра Барысенкі і галоўнага агранома Мікалая Марусава, начальніка Касцюковіцкага філіяла абласной станцыі хімізацыі Галіны Егуновай, дырэктара ААТ "Касцюковіцкая райсельгасхімія" Сяргея Віннікава і яго намесніка Барыса Хохамава. Кіраўніку гаспадаркі аб'яўлена заўвага. Прапанавана праўленню калгаса разгледзець пытанне аб вызваленні галоўнага агранома ад займаемай пасады. Адказным за сяўбу С. І. Віннікаву, Б. М. Хохамаву, а таксама Г. У. Егуновай аб'яўлены вымовы.

Калгас "Праўда" да 28 красавіка яшчэ не прыступіў да падсеву шматгадовых траў. Тут не заўсёды ўдзяляецца належная ўвага добрай апрацоўцы глебы. Так, па абыяк падрыхтаванаму ўчастку ў 40 гектараў вялася сяўба ячменю.

### У РАЙВЫКАНКАМЕ

Абгрунтоўваючы такі крок, старшыня калгаса Вячаслаў Арэхаў сказаў, што гэта адзінкавы выпадак. Згадзіліся з гэтым Г. У. Егунова і старшыня галіновага райкама прафсаюза Ніна Фралова, якая ўваходзіць у склад тэхналагічнай групы.

Райвыканкам даручыў праўленню калгаса разгледзець пытанне аб зняцці з пасады агранома гаспадаркі Мікалая Емяльяненкі. Старшыні В. У. Арэхаву, начальніку ўпраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкама – упаўнаважанаму на сяўбе Валянціну Дудараву аб'яўлены вымовы. Дырэктару аўтапарка № 8 Васілю Струкаву, Ніне Фраловай зроблены заўвагі.

Аналагічны выпадак дапушчаны ў калгасе "Ленінскі шлях". Сяўба ячменю вялася на дрэнна апрацаванай глебе. Да таго ж, збожжавая сеялка была не адрэгулявана. Пратручванне насення зроблена няякасна. У сваім тлумачэнні кіраўнік гаспадаркі Мікалай Таўпека не знайшоў дастатковых аргументаў для апраўдання, бо іх не было. Яму аб'яўлена вымова. Такое ж пакаранне панёс і член тэхналагічнай групы, начальнік станцыі аховы раслін Аляксандр Даўгалёў.

З парушэннямі тэхналогіі ўносіліся мінеральныя ўгнаенні ў калгасе "Кранштат". Перадпасяўная падрыхтоўка глебы на адным з участкаў не была зроблена як належыць, і агранамічная служба дазволіла засяваць яго.

У выканкаме заслуханы тлумачэнні старшыні калгаса Аляксандра Нікалаенкі, галоўнага агранома Івана Падабеда. Замацаваным адказнымі – дырэктару прадпрыемства меліярацыйных сістэм Пятру Білань, намесніку дырэктара райсельгасхіміі Івану Егунову аб'яўлены вымовы. Дадзены тэрмін кіраўніку і агроному гаспадаркі для ўхілення недахопаў, у адваротным выпадку яны будуць прыцягнуты да строгай адказнасці.

Звернута ўвага кіраўнікоў тэхналагічных груп Віталя Грышанава, Валянціны Кавуновай, Васіля Мар'ева, Генадзя Піскунова, Мікалая Чэпікава на недастатковую патрабавальнасць да ўзначальваемых імі груп, кіраўнікоў калгасаў па забеспячэнню высокай якасці пасяўных работ.

Райвыканкам заслухаў паведамленне дырэктара племстанцыі Людмілы Голікавай аб арганізацыі ўтрымання і кармлення маладняку буйной рагатай жывёлы ў калгасе імя Карла Маркса. Цяляты знаходзяцца на пашы і ў загонах ферм. На жывёлагадоўчым комплексе несвоечасова ўбіраюць гной, з перабоямі выдаюць цялятам прыгатаваныя канцэнтраты.

Заслуханы тлумачэнні кіраўніка калгаса Івана Агеева, галоўнага заатэхніка Алены Аўхуцкай. Старшыні зроблена заўвага. Праўленню калгаса даручана разгледзець пытанне аб вызваленні галоўнага заатэхніка ад пасады, калі не будзе дасягнута павелічэнне прывагі жывёлы за спраздачны перыяд.

Першаму намесніку начальніка райсельгасхарчу Віталю Нямёнкіну, дырэктару племстанцыі Людміле Голікавай, галоўнаму ветурачу раёна Аляксандру Судзілоўскаму ўказана на прыніжаную патрабавальнасць у пытаннях развіцця жывёлагадоўлі.



**Раней за іншых вывелі жывёлу на пашу ў калгасе "Прагрэс". З сямі гадзін раніцы і да сямі гадзін вечара пасуць кароў у гэтай гаспадарцы. Тут выкарыстоўваюць не толькі адведзеныя для пасьбы ўчасткі, але і тыя, што заняты пад азімым жытам, пасеяным восенню на кармавыя мэты. А для рацыянальнага выкарыстання пашы, карыстаюцца электрапастухамі. Не забываюць і пра тое, што жывёле патрэбна вада. На полі стаіць бочка з ёю, ёсць кармушкі.**

**У другой палове дня мы наведалі Ліпаўскую ферму. Тут панавала цішыня. Толькі дзяжурная даярка Ніна Шэвень знаходзілася на сваім працоўным месцы. Яна паведаміла, што ўсе каровы цэлы дзень на пашы. Таму і надоі растуць з кожным днём.**

**Старанна выконваюць свае абавязкі пастухі М. Г. Даўгалёў і Л. В. Раздзёрын, якія працуюць у калгасе па некалькі дзесяткаў гадоў. Зараз у іх статку каля 190 галоў жывёлы. Пастухі імкнуцца да таго, каб жывёла была заўсёды сытая.**

**На здымку: Міхаіл ДАЎГАЛЁЎ і Леанід РАЗДЗЁРЫН.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## ДОШКА ГОНАРУ

**На сяўбе збожжавых лідзіруюць:**

**ЮРКОЎ Юрый Адамавіч** – механізатар калгаса "Дуброва", які на трактары МТЗ-82 з сеялкай СПУ-6 засеяў 382 гектары.

**ДЫЛІКА Сяргей Мікалаевіч** – механізатар гэтага ж калгаса на трактары МТЗ-82 з сеялкай СПУ-6 засеяў 350 гектараў.

**ЕМЯЛЬЯНЦАЎ Віталь Уладзіміравіч** – механізатар калгаса "Парыжская камуна" на трактары МТЗ-80 з сеялкай СПУ-6 засеяў 344 гектары.

**ШУНІБОРАЎ Леанід Васільевіч** – механізатар калгаса "Ленінскі шлях" на трактары МТЗ-82 з сеялкай СПУ-6 засеяў 325-гектарную плошчу.

**(З ПАСЯДЖЭННЯ КААРДЫНАЦЫЙНАГА САВЕТА)**

## Супраць злачыннасці – агульным фронтам

Раённы выканаўчы камітэт, яго аддзелы і ўпраўленні, праваахоўныя органы раёна правялі вялікую работу па ажыццяўленню мерапрыемстваў, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю. У выніку прынятага шырокага комплекса мер удалося дабіцца пазітыўных змен у структуры і дынаміцы апошняй, стабілізаваць крымінагенную абстаноўку.

Знізілася колькасць наўмысных забойстваў з 4 да 1, крадзяжоў з магазінаў – з 30 да 15. Раскрыта 262 злачынствы, што на 13,4 працэнта вышэй узроўню папярэдняга года. Раскрываемасць склала 77,1 працэнта, у тым ліку 71,9 працэнта злачынстваў цяжкіх відаў. Скарацілася колькасць крадзяжоў асабістай маёмасці, улічваючы і кватэрныя.

Гэтыя і іншыя дадзеныя прыведзены на чарговым пасяджэнні каардынацыйнага савета па барацьбе са злачыннасцю і праваапарушэннямі пры райвыканкаме. У яго рабоце ўдзельнічалі члены гэтага савета і раённага выканаўчага камітэта, супрацоўнікі праваахоўных органаў, кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, арганізацый, устаноў, добраахвотных народных дружын.

Вёў пасяджэнне старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў. З дакладам у парадку дня выступіў загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай работы Сяргей Стасеў.

Савет адзначыў, што разам з станоўчымі тэндэнцыямі захоўваюцца, на жаль, адмоўныя. Па раду напрамкаў крымінагенная абстаноўка ў раёне ўскладнілася. Колькасць злачынстваў, якія зарэгістраваны па ўсіх ліініях служб, узрасла на 4,7 працэнта, у тым ліку па лініі крымінальнага вышуку – на 3,9 працэнта. У мінулым годзе было 416 злачынстваў, з якіх 242 цяжкіх, з 9 да 12 павялічылася колькасць грабяжоў. Больш учынілі злачынстваў раней судзімыя асобы. Адзначаецца рост злачынасці сярод падлеткаў. Непаўналетнімі ўчынена 22 злачынствы, што больш аналагічнага перыяду папярэдняга года. У першым квартале гг. ужо зарэгістравана 14 злачынстваў непаўналетніх.

Работа праваахоўных органаў ідзе ў адпаведнасці з рабочымі планамі. Праведзены комплексныя аператыўна-прафілактычныя аперацыі "Нагляд", "Арсенал", "Праваапарадак" і іншыя. Выпраданыя сумесныя мерапрыемствы УКДБ і РАУС па барацьбе з тэрарызмам. Летась было складзена 23 адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне парадку правядзення валютных аперацый. Канфіскавана 120 долараў ЗША, 2350 рублёў банка Расіі, каля 45 мільёнаў беларускіх рублёў. Выяўлены тры факты хабарніцтва, столькі ж выпадкаў крадзяжоў у буйных памерах. Выконваецца Дэкрэт № 15 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, як і ўсе іншыя. Вінаватыя асобы аштрафаваны на суму 522 тысячы рублёў. Канфіскаваны ў даход дзяржавы 4 аўтамашыны, таварна-матэрыяльныя каштоўнасці на суму 640 тысяч рублёў. Узбуджана 16 крымінальных спраў.

На прафілактычным уліку ў аддзеле ўнутраных спраў стаіць 225 раней судзімых. Дарэчы, імі летась учынены 22 злачынствы, што на 5 больш, чым у 1998 годзе. За паводзінамі гэтай катэгорыі грамадзян ажыццяўляецца сапраўдны кантроль з боку ўчастковых інспектараў і іншых служб. Устаноўлены адміністрацыйны нагляд за некаторымі з іх. Некалькі чалавек накіраваны на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

Прыведзеныя лічбы сведчаць аб недастаткова эфектыўнай папярэджальна-прафілактычнай рабоце з судзімымі. Недастаткова працуе і назіральная камісія пры райвыканкаме.

Па сістэме "Быт" летась на ўліку стаялі 107 чалавек. Паступіла 91 заява аб бытавых канфліктах. Прыцягнуты да крымінальнай адказнасці 67 чалавек, вынесена 35 афіцыйных перасярог. Учынены 5 злачынстваў на бытавой глебе. У выніку праведзенай аперацыі "Быт" прафілактычнаму ўздзеянню падвергнуты 143 чалавекі, 126 прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Падрыхтаваны матэрыялы для накіравання некалькіх чалавек у ЛПП.

На ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх знаходзіцца 67 падлеткаў. Сярод юных злачынцаў 11 вучняў школ. З агульнай колькасці падлеткаў, якія ўчынілі злачынствы, 19 жывуць у няпоўных і нешчаслівых сем'ях. Хаця праводзіцца вялікая прафілактычная работа з імі, але належнага эфекту не дасягнута. За першы квартал 2000 года адбылося 14 злачынстваў. Між іншым, 12 злачынстваў учыніў непаўналетні А. Мамуцін, 1982 года нараджэння, у групе з дарослымі. Яны ўцягнулі падлетка ў злачынную дзейнасць. Прычым усе злачынствы ўчынены ў вельмі кароткі час – з 14 ліпеня 1999 года па 4 верасня таго ж года. У гэты перыяд група ўжо была выяўлена супрацоўнікамі РАУС. Такі факт можна расцаніць, як прафесіянальную памылку і ўпушчэнне работнікаў інспекцыі па справах непаўналетніх. Падлеткі, якія схільныя да ўчынення праваапарушэнняў і злачынстваў, не маюць належнага аператыўнага прыкрыцця як з боку інспекцыі, так і школы. Недастаткова вядзецца індывідуальная прафілактычная работа па месцы жыхарства і вучобы падлеткаў. Як правіла, дзеці трапляюць пад уплыў раней асуджаных і прыходзяць у іх сваю шайку.

*(Працяг на 2 стар.)*

ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

# ХАЙ ПАДРАСТАЮЦЬ ТРАВЫ

**На вуліцы яшчэ толькі пачынае святлець, зоркі страчваюць сваю яркасць, а Іван Уладзіміравіч Васекін ціха апранаецца і спяшаецца на машына-трактарны двор роднага калгаса "Прагрэс". Менавіта гэты механізатар, як кажуць, будзіць вясну. Ён першы ў гаспадарцы распачынае вясеннія палявыя работы. Сёлетні год таксама не быў выключэннем. Іван Уладзіміравіч сеяў канюшыну і цімафееўку на палетках каля вёскі Канічы, дзе засеяў плошчу 100 гектараў і каля вёскі Бароўка – 110 гектараў.**

**Вядома, з завяршэннем гэтага віду работ не спыніць свой МТЗ Іван Уладзіміравіч на адпачынак. Цяпер таксама знойдуцца для яго справы. Старанны механізатар не лічыць іх другараднымі. Любое заданне выконвае на сумленне. Бо не навічок ён у гаспадарцы, разумее, што яму тут жыць, і на яго вачах будуць расці і набірацца сілы густыя травы, якія ён жа і будзе ўбіраць на корм грамадскаму статку, будзе каласіцца збажына.**

**Усе гэтыя работы вядомы Васекіну, лічы, з дзяцінства. Бо ён, як толькі закончыў школу, атрымаў правы трактарыста, адразу ж уладкаваўся ў мясцовы тады саўгас "Саматэвічы". Яму падабалася самастойна выконваць даручанае заданне, выслухоўваць словы падзякі ад дырэкцыі гаспадаркі.**

**Пасля службы ў арміі Іван Уладзіміравіч нейкі час жыў у Гомелі і працаваў на "Гомсельмашы". Ажаніўся на сваёй жа аднакласніцы. А калі ў новым пасёлку для перасяленцаў размяркоўвалі жыллё, вярнуўся ў родны калгас, на ціхія вясковыя вуліцы з водарам маладых лісточкаў бярозы вясной. Так жыве і працуе Іван Уладзіміравіч у Новасаматэвічах. Да новага месца жыхарства прывык. Падабаецца, што непадалёк лес, дзе з ранняй вясны да позняй восені кожнага сустракаюць тут сваімі меладычнымі песнямі птушкі.**



**На здымку: І. У. ВАСЕКІН.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# РЭЗЕРВЫ ЁСЦЬ У КОЖНАЙ ГАЛІНЕ

*На праведзенай Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам рэспубліканскай нарадзе пастаўлены задачы па павышэнню эфектыўнасці работы аграпрамысловага комплексу. Падтрымліваючы ўсе формы гаспадарання на зямлі, у першую чаргу буйна-таварныя калгасы і саўгасы, дзяржава бярэ на сябе абавязкі па ўдасканальванню арганізацыйна-эканамічнага механізму АПК, яго тэхнічнаму пераўзбраенню, занальнай спецыялізацыі.*

*Наша гутарка з кіраўніком калгаса імя Карла Маркса **І. М. АГЕЕВЫМ** аб вырашэнні надзённых праблем.*

**— Іван Міхайлавіч, давайце не будзем закранаць парытэт цэн, аб якім усе ведаюць. Тым больш, ні для каго не навіна, што разрыў паміж ростам цэн на сельгаспрадукцыю і ростам іх на гаруча-змазачныя матэрыялы, угнаенні, запасныя часткі і г.д. працягваецца. Пакінем гэтыя довады ў баку, а засяродзім увагу на ўнутраных рэзервах і магчымасцях гаспадаркі. Што трэба зрабіць, каб і ў такіх умовах выжыць?**

— Коратка можна сказаць так: спадзявацца трэба на саміх сябе, павялічваць вытворчасць прадукцыі, наладжваць працоўную і тэхналагічную дысцыпліну. Рэзерваў шмат ва ўсіх галінах гаспадарання. Возьмем, да прыкладу, раслінаводства, ад узроўню вядзення якога залежыць не толькі задавальненне патрэбнасцей насельніцтва ў адпаведных прадуктах, а і стан у жывёлагадоўлі. У мінулым годзе валавы збор збожжа склаў 1456 тон, пры ўраджайнасці 8,1 цэнтнера з гектара, што склала толькі 57 працэнтаў да ўзроўню 1998 года. Тут нашы грошы, тут і пачатак усяму.

**— Што робіцца, каб усё ж паправіць становішча ў раслінаводстве?**

— Плануем давесці пасевы рапса да 120 гектараў, таму што нават пры мінулагодняй нізкай ураджайнасці, 1,5 цэнтнера з гектара, продаж рапсу аказаўся рэнтабельным. Рэнтабельнасць склала 18,8 працэнта. Каб не спадзявацца на літасць прыроды, пад сёлетні ўраджай патрабуецца 262 тоны азотных угнаенняў, 140 тон — фосфарных і 402 тоны — калійных, а таксама яды для правядзення хімічнай апрацоўкі пасеваў на суму 31 мільён рублёў. Вядома, большую частку гэтых сродкаў возьме на сябе дзяржава, бо ў калгасе іх проста няма.

**— А што трэба, каб мець іх?**

— Згодна з вытворчай праграмай, гаспадарка плануе забяспечыць валавую вытворчасць збожжа 3422 тоны, г.зн. больш як у 2 разы вышэй узроўню 1999 года і прадаць дзяржаве 800 тон. Адной са ступеняў на шляху дасягнення пастаўленай мэты з'яўляецца правядзенне веснавой сяўбы ў аптымальныя тэрміны. Для гэтага восенню была ўбрана салома з палёў, а за зімні перыяд усе стагі перавезены на фермы. Як станоўчы момант: у час уборкі мы адначасова займаліся і ачысткай насення. Забяспечанасць насеннем яравых культур па калгасу — 100 працэнтаў.

**— Жывёлагадоўля – другая важнейшая галіна сельскай гаспадаркі. Як тут абстаяць справы?**

— На жаль, і ў жывёлагадоўлі дапушчана рэзкае зніжэнне валавой вытворчасці малака і мяса. На вытворчасць малака ў нейкай ступені паўплывала летняя засуха, але гэта не азначае, што праўленне калгаса, зоаветслужба і кожны жывёлавод на сваім месцы зрабілі ўсё ад іх залежачае, каб не дапусціць такога зніжэння. Дзеля справядлівасці, трэба заўважыць, што калгас забяспечыў травянымі кармамі зімоўку жывёлы. Не быў упушчаны час па догляду шматгадовых траў, сенажацяў і пашы. У самыя лепшыя тэрміны была праведзена падкормка мінеральнымі ўгнаеннямі. Гэта садзейнічала росту траў, што дазволіла раней пачаць касавіцу. Значыць, справа, як я ўжо сказаў, не толькі ў кармах, а ў адносінах да працы, аб чым сведчаць і вынікі. Калі ў лепшай даяркі Тамары Чубанавай надой на карову склаў 2457 кілаграмаў, то з 19 груп толькі па 7 групах надой перавысіў 2000 кілаграмаў.

**— Усё гэта грашовыя сродкі.**

— Вядома. Акрамя страт ад паморку жывёлы, страты ад рэалізацыі малака нізкім гатункам склалі 676 тысяч рублёў, ад продажу нізкай укормленасці буйной рагатай жывёлы — 1503 тысячы рублёў, свіней – 615 тысяч рублёў. З-за высокай ялавасці кароў калгас недаатрымаў 1882 тысячы рублёў. Так што рэзерваў у жывёлагадоўлі для павышэння эфектыўнасці больш чым дастаткова.

Па-ранейшаму застаецца вялікі расход кармоў на адзінку прадукцыі. На вытворчасці свініны ён узрос амаль у 2 разы.

**— Без тэхнічнай аснашчанасці справы ў паляводстве не вельмі паправіш.**

— Больш як 50 працэнтаў машына-трактарнага парку мае тэрміны эксплуатацыі 10 гадоў. Для абнаўлення яго патрабуюцца вялікія капіталаўкладанні. Зыходзячы з магчымасці, мы знаходзім шляхі па вышукванню сродкаў на набыццё і рамонт тэхнікі. На працягу мінулага года купілі раскідвальнік РМУ-131, касілку КДН-210, АКШ-7,2.

**— Пры зношанасці тэхнікі вялікая яшчэ і нагрузка.**

— На адзін умоўны трактар прыпадае 117 гектараў сельгасугоддзяў, на адзін збожжаўборачны камбайн – 140 гектараў зерневай групы. Таму праўленне калгаса лічыць неабходным узмацніць патрабаванні да механізатараў за якасць рамонту і тэхнічнае абслугоўванне, павышэнне кваліфікацыі, укараненне энергазберагаючых тэхналогій, працоўнай дысцыпліны.

**— Іван Міхайлавіч, які ўжо раз вы спыняецеся на павышэнні працоўнай дысцыпліны, за кошт якой можна паправіць эканоміку...**

— Мяркуйце самі, на тэрыторыі гаспадаркі пражываюць 1308 чалавек, з якіх 562 працаздольныя. Членаў калгаса 318, што складае 57 працэнтаў. Разам з гэтым, прыкладна 20 працэнтаў працаздольнага насельніцтва не занята нідзе. У той жа час не хапае кваліфікаваных кадраў у жывёлагадоўлі, дзе, часам, працуюць нядобрасумленныя людзі. За 1999 год больш як 30 працэнтаў работнікаў жывёлагадоўлі былі прыцягнуты да розных мер пакарання.

Разам з тым, за буднямі асноўнай вытворчай дзейнасці, калгас не забывае і аб патрэбах насельніцтва. Для жывёлы прыватнага сектара выдзяляюцца бясплатна сенажаці. Калгас аказвае платныя паслугі па апрацоўцы прысядзібных участкаў, распілоўцы лесаматэрыялаў, размолу зернефуражу. Малако ў насельніцтва закупляецца па цане вышэйшага гатунку. За мінулы год яго закуплена 132 тоны.

**— Якія б цяжкасці ні былі, калі жыць, трэба будаваць. Ці плануецца што ў сёлетнім годзе?**

— Зыходзячы з магчымасцей, мы імкнемся сваімі сіламі весці будаўнічыя і рамонтныя работы. Летась пабудавалі прафілакторый для цялят на комплексе "Журбін". Будаўнічай брыгадай пастаянна вядзецца работа па рамонту загонаў для жывёлы, нарыхтоўцы дроў для катлоў. Сёлета плануем правесці добраўпарадкаванне машыннага двара і рамонт майстэрні ў Відуйцах, адрамантаваць склад ядахімікатаў у Журбіне, паправіць агароджы артэзіянскіх свідравін у вёсках Сялецкае і Відуйцы.

**Інтэрв'ю вёў**
**Віктар БОНДАРАЎ.**

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# *Бацькі ў адказе за дзяцей*

*Як вядома, бацькі нясуць юрыдычную адказнасць за сваіх дзяцей да 18 гадоў, да наступлення паўналецця. Аднак гэта не значыць, што ўсялякія клопаты аб іх затым спыняюцца. У большасці сваёй бацькі выконваюць свае абавязкі на належным ўзроўні, але нямала і такіх, хто адносіцца да гэтага абыякава. Да такіх гора-бацькоў заканадаўствам Рэспублікі Беларусь установлена дысцыплінарная, адміністрацыйная адказнасць. Важная роля ў ахове правоў дзіцяці і падлеткаў належыць і камісіі па справах непаўналетніх райвыканкама. Аб гэтым наша размова з адказным сакратаром камісіі **НАТАЛЛЯЙ САКОВІЧ**.*

**— Наталля Фёдараўна, якія меры ўздзеяння можа прымяніць камісія да бацькоў, якія не выконваюць як след свае абавязкі?**

— Дзейнасць камісіі накіравана на папярэджванне безадказных паводзін бацькоў і яна мае права прымяніць да віноўных меры ўздзеяння, згодна з Палажэннем аб камісіях і Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях РБ, у выглядзе папярэджвання або штрафу.

**— За якія правапарушэнні падлеткаў нясуць адказнасць бацькі?**

— Бацькі нясуць адказнасць за здзяйсненне дзецьмі злачынстваў, адміністрацыйных правапарушэнняў, за іншыя антыграмадскія ўчынкі, за ўхіленне дзяцей ад вучобы, а таксама адказваюць па Закону за злоснае невыкананне сваіх абавязкаў па выхаванню і навучанню непаўналетніх дзяцей.

Віна бацькоў і ў дрэнным выхаванні дзяцей, адсутнасці за імі належнага кантролю, неправамерным выкарыстанні сваіх правоў у адносінах да дзяцей.

Бацькі нясуць грамадзянска-прававую (маёмасную) адказнасць за шкоду, якую зрабілі дзеці маёмасці грамадзян або суб'ектам гаспадарання. За падлеткаў ва ўзросце да 14 гадоў, якія зрабілі правапарушэнне, нясуць адказнасць бацькі. Падлеткі ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў адказваюць за свае праступкі самі на агульных падставах. Калі ж у іх няма маёмасці або заробку, то ўрон кампенсуюць бацькі.

**— А калі бацькі пазбаўлены правоў на свайго дзіцяці?**

— Згодна з заканадаўствам, на бацькоў, якія пазбаўлены правоў, суд можа накласці адказнасць за ўрон, які нанесены іх дзіцяці, на працягу трох гадоў пасля пазбаўлення іх бацькоўскіх правоў, калі палічыць, што паводзіны непаўналетняга з'яўляюцца вынікам няправільнага здзяйснення бацькоўскіх абавязкаў. (арт. 944 ГК).

**— Нярэдкія выпадкі, калі самі бацькі ўцягваюць сваіх непаўналетніх дзяцей у п'янкі. Якія меры ўздзеяння прадугледжаны ў гэтым выпадку да бацькоў?**

— Прыцягненне дзяцей да ўжывання спіртных напіткаў бацькамі – гэта вынік злоснага невыканання сваіх абавязкаў. Найбольш часта гэта назіраецца ў сем'ях, дзе бацькі п'юць. Так, на бацькоў, якія віноўныя ў давядзенні дзіцяці да стану ап'янення (калі гэта не ўтрымлівае прыкмет злачынства), накладваецца штраф у размеры ад 5 да 10 мінімальных заработных плат. Пры сістэматычным уцягненні падлетка ў п'янства наступае крымінальная адказнасць бацькоў у выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 5 гадоў.

**— У якіх яшчэ выпадках прадугледжана крымінальная адказнасць бацькоў?**

— Для папярэджвання і ўхілення асабліва злосных парушэнняў бацькамі абавязкаў па выхаванню дзяцей устаноўлена крымінальная адказнасць. Згодна з Крымінальным Кодэксам Рэспублікі Беларусь прадугледжана адказнасць бацькоў за давядзенне дзіцяці да самазабойства або пры замаху на яго шляхам жорсткага абыходжання, сістэматычнай зневажальнасці яго асабістай годнасці з боку асобы, ад якой пацярпеўшы знаходзіцца ў матэрыяльнай або іншай залежнасці. Тут разумеюцца і роднасныя сувязі паміж бацькамі і дзецьмі. Пакаранне – пазбаўленне волі да 5 гадоў.

Да трох гадоў пазбаўлення волі прадугледжана і за сістэматычнае мучэнне дзіцяці з мэтай прычыніць яму працяглыя пакутванні, а таксама прычыненне асабліва жорсткага болю. За наўмысныя менш цяжкія або цяжкія цялесныя пашкоджанні віноўныя бацькі прыгаворваюцца судом да пазбаўлення волі на тэрмін ад 3 да 8 гадоў. Калі ж гэта пацягнула за сабой смерць дзіцяці – пазбаўленне волі да 15 гадоў.

Прыцягненне непаўналетніх у злачынную дзейнасць караецца пазбаўленнем волі да 8 гадоў.

Бацькі-наркаманы, якія схіляюць сваіх непаўналетніх дзяцей да ўжывання наркатычных сродкаў, могуць быць пазбаўлены волі на тэрмін да 10 гадоў.

**— У нас у раёне былі такія выпадкі?**

— Слава Богу, не. За ўцягненне ў п'янку непаўналетніх на камісіі разглядаліся справы на бацькоў.

**— Наталля Фёдараўна, у раёне нярэдкія выпадкі, калі бацькі пазбаўляюцца правоў у адносінах да сваіх дзяцей. Якія падставы служаць для гэтага?**

— На жаль, гэта так. У мінулым годзе, напрыклад, было пазбаўлена 17 бацькоў у адносінах 19 дзяцей. У гэтым – 3 бацькі ў адносінах 2 дзяцей. Яшчэ на чатырох бацькоў у адносінах 7 дзяцей матэрыялы ўжо знаходзяцца ў адпаведных органах. З апошняй камісіі накіраваны выпіскі на 8 бацькоў на пазбаўленне іх правоў.

Згодна арт. 80 Кодэкса аб шлюбе і сям'і РБ бацькі або адзін з іх могуць быць пазбаўлены бацькоўскіх правоў, калі будзе ўстаноўлена, што яны ўхіляюцца ад выканання сваіх абавязкаў па выхаванню дзяцей або злоўжываюць бацькоўскімі правамі, жорстка абыходзяцца з дзецьмі, аказваюць дрэнны ўплыў на іх амаральнымі антыграмадскімі паводзінамі. Бацькоўскіх правоў могуць быць пазбаўлены бацькі, якія з'яўляюцца хранічнымі алкаголікамі або наркаманамі.

Пазбаўленне правоў бацькоў праводзіцца толькі рашэннем суда.

**— Пазбаўленне бацькоўскіх правоў не вызваляе бацькоў ад абавязкаў па ўтрыманню дзіцяці?**

—Вядома, не. Выносячы рашэнне аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў, суд спаганяе з бацькоў аліменты на дзіцяці. Калі дзіцяці перадаецца на выхаванне ў інтэрнат ці ў другую дзіцячую ўстанову, то аліменты спаганяюцца ў карысць гэтай установы.

**— А калі бацькі ўхіляюцца ад уплаты?**

— За ўхіленне ад уплаты па рашэнню суда сродкаў на ўтрыманне непаўналетніх дзяцей і дзяцей, якія маюць патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе, больш трох месяцаў на працягу года, бацькі падвяргаюцца арышту да 6 месяцаў або абмежаванню волі на тэрмін да 3-х гадоў.

Тыя ж дзеянні, якія зроблены асобай, раней асуджанай за ўхіленне ад утрымання дзяцей, караюцца пазбаўленнем волі да 2-х гадоў.

Пазбаўленне бацькоўскіх правоў носіць безтэрміновы характар. Аднак закон дапускае магчымасць аднаўлення ў правах бацькоў.

Хацелася б напомніць бацькам, што ні адна самая ўдасканаленая дзіцячая ўстанова не ў стане замяніць іх, стварыць тую атмасферу індывідуальнай любві, пяшчоты, прывязанасці і ўвагі, без якой дзяцінства дзіцяці пазбаўлена колеру.

**— Дзякуй, Наталля Фёдараўна, за інтэрв'ю.**

**Вяла гутарку**
**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

